


Арт: Natalia Grebionkina



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ?**

**ПАДТРЫМАЙЦЕ**

**БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ**

**І КАМПАНІЮ "SAVE OUR SONGS"**

# 1. ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА




**БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР ПРЭЗЕНТАВАЎ ПЕРШЫЯ ЛІЧБЫ І ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ ПАРУШЭННЯ ПРАВОЎ У СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ, ЯКІЯ ЁН РЭАЛІЗОЎВАЎ ЦЯГАМ ГОДА (СНЕЖАНЬ'19 - ЛІСТАПАД'20). У ХУТКІМ ЧАСЕ З'ЯВІЦЦА ПОЎНАЯ СПРАВАЗДАЧА ЗА ГОД.**






## ВІДЫ ПРАВОЎ, ПАРУШАНЫХ У ДАЧЫНЕННІ ДА ПРЫВАТНЫХ АСОБ І ЗГУРТАВАННЯЎ




ГРУПЫ ПРАВОЎ, ЯКІЯ БЫЛІ ЗАКРАНУТЫЯ




ТОП-10 ПАРУШЭННЯЎ




Беларускі ПЭН-цэнтр ©

Перыяд: снежань'19 – лістапад'20



## ВІДЫ ПРАВОЎ, ПАРУШАНЫХ У ДАЧЫНЕННІ ДА ПРЫВАТНЫХ АСОБ І ЗГУРТАВАННЯЎ




ПЕРЫЯД: СНЕЖАНЬ'19 – ЛІСТАПАД'20 ГОДА

**9%** ПАРУШЭННЯЎ

**ДАТЫЧАЦЬ НЕПАСРЭДНА КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ**

У ТОЙ ЧАС ЯК

**82%** ПАРУШЭННЯЎ

ДАТЫЧАЦЦА **ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВОЎ ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ**

Беларускі ПЭН-цэнтр ©

# 2. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



***Святлана Купрэева*** - дачка пісьменніка ***Міколы Купрэева***, былая сяброўка ініцыятыўнай групы ***Віктара Бабарыка*** і блізкая сяброўка іх сям'і. З 11 ліпеня яна знаходзіцца пад вартай па крымінальным абвінавачванні ва ўхіленні ад падаткаў. 11 снежня суд працягнуў ёй тэрмін утрымання пад вартай яшчэ на **2** месяцы.



***Аляксей Галубец***, ды-джэй ***Delos***, які быў затрыманы 13 снежня і правёў дзве ночы на Акрэсціна, атрымаў штраф **30** базавых велічынь (**810** рублёў) і выйшаў на волю.









***Лера Лазук***, мастачка, затрыманая ў нядзелю 13 снежня, 16 снежня была пакараная **13** суткамі арышту.



Музыка гурта Rahis ***Дзяніс Філіпенка***, якога затрымалі 14 снежня для адбыцця **13**-сутачнага адміністрацыйнага арышту, 16 снежня атрымаў яшчэ **13** сутак (за ўдзел у акцыі пратэсту 25 кастрычніка). Такім чынам ён правядзе пад арыштам **26** сутак.



## ЗАТРЫМАНЫЯ Ў НЯДЗЕЛЮ 20 СНЕЖНЯ:




***Андрэй Янковіч***, карыкатурыст, які стаў вядомым пасля мітынгу 30 жніўня, калі ён выйшаў на пратэст у вобразе "ненастаяшчага прэзідэнта" і за які адсядзеў 7 сутак арышту, а дагэтага адседзеў 10 сутак арышту за 16 жніўня, затрыманы ў Гродна.





***Антон Сіліч***, вулічны музыка, затрыманы ў Гродна.



***Віктар Якубаў***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яго затрымалі, калі ён вяртаўся з дзіцячага свята ў раёне.



***Ягор Шумскі***, фатограф і дызайнер, затрыманы ў двары свайго дома ў Мінску.



21 снежня Мінскі гарадскі суд адмяніў **15** сутак, якімі суд Фрунзенскага раёна Мінска пакараў паэта і музыку ***Уладзя Лянкевіча***, аднак Уладзь ужо адбыў усе **15** сутак.

Фота: Radio Svaboda, Hrodna.life, Facebook, 34mag.net, Euroradio

# 3. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ

Фота: СХТ

Сям'і ***Доўнар***, заснавальнікам брэнду адзення Honar, пагражаюць статусам «сацыяльна небяспечнай» і пастанавілі правесці расследаванне, якое тычыцца іх 8-гадовай дачкі (сям'ю могуць паставіць на ўлік, калі там дзеецца гвалт, дзіця не даглядаюць, не кормяць і г.д.), паведаміўшы, што ёсць нейкі фотаздымак з марша у сацсетках, але ні паказаць гэты фатаздымак, ні патлумачыць прычыны прэтэнзій сям'і не змаглі.



***Канстанцін Яськоў***, кампазітар, разам з сям'ёй пакінуў Беларусь на неакрэслены час. Як ён сам патлумачыў, прычынай палягае ў тым, што сітуацыя для людзей, нязгодных з гвалтам і беззаконнем, кожны дзень робіцца ўсё больш небяспечнай. Апошняй кропляй стала навіна пра абмежаванне на выезд з Беларусі.





**ТЭАТРАЗНАЎЦА І ВЫКЛАДЧЫКА БДАМ АЛЯКСЕЯ СТРЭЛЬНІКАВА ЗВОЛЬНІЛІ З ПРАЦЫ.**

***"19 ноября я объявил руководству Белорусской государственной академии искусств о начале забастовки в связи с событиями в стране и тем, как Академия общается со своими студентами и преподавателями. Сегодня я ознакомился с приказом о своем увольнении за прогулы.Я пришел в Академию в 2013 году и хотел, чтобы мои знания были на пользу студентам и выпускникам. Я по прежнему уверен, что у нас у всех есть будущее, а у тех, кто судорожно занимается репрессиями, его нет".***





***Наталля Ляванава***, супрацоўніца Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, 11 снежня была таксама звольненая за тое, што далучылася да агульнанацыянальнай забастоўкі.


Арт: Валер Вядрэнка

Праца фатографа ***Валера Вядрэнкі*** была знятая з выставы "Дарога да святла" 16 снежня ў галерэі "Высокае месца" ў Мінску.
Прычыну аўтару здымка не змаглі дакладна патлумачыць, а толькі спасяаліся на "прадпісанне", якое рэгламентуе, якія працы можна выстаўляць, а якія нельга.



***Андрэй Бастунец***, паэт, журналіст, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў, 16 снежня быў выклікаты на допыт у Следчы камітэт у якасці сведкі па крымінальнай справе, заведзенай паводле артыкула 361 Крымінальнага кодэкса (Заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь).


Фота:БАЖ




Арт: Андрэй Шарапаў

***Андрэй Шапараў***, дызайнер і мастак, сябра Беларускага саюза дызайнераў, вымушаны быў з'ехаць з краіны разам з жонкай ***Святланай Петушковай***, мастачкай, праз ціск з боку МУС, які ставіў іх сям'ю ў небяспечнае становішча. Напярэдадні Андрэю пазванілі з міліцыі датычна малюнка, які Андрэй змясціў на асабістай старонцы ў Фэйсбуку – малюнак кагосьці абразіў.

# 4. РЭПРЭСІІ ЗА СІМВОЛІКУ



***Лізавета Бурсава***, 87-гадовая жыхарка Мінска, якая перажыла Халакост, атрымала штраф **15** базавых велічыняў (**405** рублёў) за бел-чырвона-белы сцяг, які яна вывесіла на балконе.

**_Глеб Шапо_**, экс-рэжысёр БТ, які быў рэжысёрам нумароў беларускіх прадстаўнікоў на «Дзіцячае Еўрабачанне-2015, 2017», дарослае «Еўрабачанне» ў 2015 годзе, а таксама асістэнтам рэжысёра на «Дзіцячае Еўрабачанне-2010, 2018» у Мінску, 15 снежня атрымаў **10** сутак арышту за сцяг на акне.









Трое мінчукоў, сярод якіх ***Андрэй Мацук*** – вядомы ў Беларусі і ў замежжы спецыяліст па гісторыі ВКЛ XVIII ст, атрымалі па **15** сутак за святкаванне дня народзінаў у двары, бо ў іх быў торцік з "Пагоняй".

У Паставах за сцяг над домам актывіста ***Паўла Марозава*** пакаралі 8 суткамі арышту.

***Аляксандр Шарайбак***, актывіст з горада Глыбокае, за сцяг над домам атрымаў штраф у памеры **40** базавых велічыняў (**1080** рублёў).



# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

**МУЗЫЧНЫ ПРАЕКТ TRYNIĆI (ІВАН КІРЧУК, СЯРЖУК ДОЎГУШАЎ І МАРГАРЫТА ЛЯЎЧУК)**

**ПРЭЗЕНТАВАЎ КЛІП LITO І ПРЫСВЯЦІЎ ЯГО ЖНІЎНЮ 2020. РЭЖЫСЁР КЛІПА - ЮРА ДЗІВАКОЎ.**





***Дзмітры Строцаў*** 15 снежня правёў анлайнавыя чытанні сваіх вершаў “БЕЛАРУСЬ ОПРОКИНУТА” пры падтрымцы Беларускага ПЭН-цэнтра. Дапамагалі яму ***Андрэй Хадановіч*** і ***Аляксандр Памідораў***.




Другі жаночы паэтычны марш прайшоў анлайн 19 снежня.
На ім свае вершы чыталі: ***Марыя Бадзей, Вольга Маркітанава, Марыя Мартысевіч, Ганна Отчык і Таццяна Светашова***.




17 снежня адбылася прэм'ера інтэрактыўнага шоу ***«Годны двор»*** – вечаровая анлайн-сустрэча, якая перадае  атмасферу тых самых раённых святаў, якія сталі новай традыцыяй для тысяч беларусаў.



У першым выпуску – парады па перамогах у дваровых гульнях ад ***Ганны Бонд***, дыскусія з бізнэсоўцам ***Паўлам Белавусам*** і выступ гурта ***Разбітае Сэрца Пацана***, а таксама знаёмства з прадстаўнікамі актыўных двароў Беларусі.




***Сяргей Міхалок*** і гурт Drezden прэзентавалі новы кліп Barrikado — своеасаблівы маніфест у адказ на тое, што адбываецца ў Беларусі



Праект ***"Арыстакратычная бледнасць"*** зладзілі сатырычны LIVE у падтрымку беларускіх культурных дзеячаў разам з Беларускім фондам культурнай салідарнасці.




Амаль ***500 песень*** было створана сёлета музыкамі з розных краін пад уплывам беларускіх пратэстаў.

Беларуская спявачка ***Іна Афанасьева*** выпусціла новы кліп і выказалася ў падтрымку беларускага народа.

**"СТОЛЬКІ ЎСЯГО АДБЫЛОСЯ ЗА ГЭТЫ ЧАС, ПАДЗЯЛІЛА НА "ДА" І "ПАСЛЯ"! АЛЕ Я ВЕДАЮ, ШТО БЕЛАРУСЫ – САМЫ МОЦНЫ І СМЕЛЫ НАРОД, ЯКІ ЎМЕЕ ЛЮБІЦЬ! Я ГАНАРУСЯ ТЫМ, ШТО З'ЯЎЛЯЮСЯ ЧАСТКАЙ ГЭТАЙ НАЦЫІ, І ЎДЗЯЧНАЯ КОЖНАМУ З ВАС ЗА ВАШУ ЛЮБОЎ!"**






Першы сінгл новага беларускага музычнага праекта з жаночым вакалам PLATER, названы ў гонар моцнай, маладой і таленавітай рэвалюцыянеркі XIX стагоддзя Эміліі Плятэр, прысвечаны нашым мамам.

**"СЁННЯ ЯНЫ, МАГЧЫМА, ЯК НІКОЛІ ІДУЦЬ З НАМІ ПОПЛЕЧ. ЯНЫ КОЖНЫ ВЕЧАР ЧАКАЮЦЬ НАС ДОМА, ЯНЫ ВЫХОДЗЯЦЬ З НАМІ НА ВУЛІЦЫ, ЯНЫ ДАПАМАГАЮЦЬ НАМ САБРАЦЦА НА ПРАГУЛКУ, ЯНЫ СТАЯЦЬ КАЛЯ ІЗАЛЯТАРАЎ І РУУС – ЯНЫ З НАМІ ЗАЎСЁДЫ, КОЛЬКІ Б НАМ НІ БЫЛО ГАДОЎ І ШТО Б З НАМІ НІ ЗДАРАЛАСЯ."**

ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАГА КІНО

З 17 па 23 снежня ў Мінску праходзіць ***Фестываль беларускага кіно***. На ім паказваюць фільмы, якія ўваходзілі ў праграму кінафестываля "Лістапад", які быў адменены, а таксама два вечары памяці, прысвечаныя загінулым ***Любе Зямцовай, Максіму Гаўрыленку*** і ***Уладзіміру Міхайлоўскаму***, аўтарам дакументальнага праекта «Невядомая Беларусь».

***Студэнткі трох творчых ВНУ*** (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі) арганізавалі ***Студэнцкае аб'яднанне мастацтваў*** (САМ) дзеля падтрымкі культуры і студэнцкіх ініцыятыў. Падтрымаць актывістак на першай сустрэчы прыйшлі вольныя купалаўцы і купалаўкі.



Фестываль "Музыка побач-2" адбыўся анлайн 19 снежня. У ім узялі ўдзел беларускія музыкі: ***Лявон Вольскі*** і ***Павел Аракелян, Ілля Чарапко-Самахвалаў*** ("Петля Пристрастия", "Кассиопея"), гурты ***RECHA, LEIBONIK, Re1ikt***, бард ***Андрэй Мельнікаў***.






**ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ** Ў ДВАРЫ НА ВУЛІЦЫ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА Ў МІНСКУ.





МАЛЮНКІ, ПАРТРЭТЫ СУКАМЕРНІЦ, **НАТАЛЛІ ХЕРШЭ**, ЯКУЮ АСУДЗІЛІ НА **2,5** ГАДЫ ЗНЯВОЛЕННЯ ЗА САРВАНУЮ З АМАПАЎЦА МАСКУ, У МАТЭР’ЯЛЕ РАДЫЁ “СВАБОДА”.

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Фота: journalby.com

**ГАННА СЕВЯРЫНЕЦ, НАСТАЎНІЦА, ПІСЬМЕННІЦА, ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦА, ПАДЗЯЛІЛАСЯ СВАІМІ ДУМКАМІ ПРА ВЫНІКІ 2020 ГОДУ.**

**"ДЛЯ МЯНЕ ЯК ДЛЯ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЗАЙМАЕЦЦА ПАПУЛЯРЫЗАЦЫЯЙ ЛІТАРАТУРЫ, ГАЛОЎНЫ ВЫНІК – НЕЙМАВЕРНАЯ ПРАГА СВАЙГО. ДВА ГАДЫ ТАМУ 5-7 ЧАЛАВЕК ПРЫХОДЗІЛІ НА ІМПРЭЗУ Ў ЦЁПЛЫ МУЗЕЙ, А ЦЯПЕР У ДВАРАХ 50-70 ЧАЛАВЕК СТАЯЦЬ У ХОЛАД. СТАЯЦЬ ДАРОСЛЫЯ, ДЗЕЦІ, САБАКІ СЯДЗЯЦЬ.... ГАДЗІНУ-ПАЎТАРЫ ГАВОРЫШ – СЛУХАЮЦЬ, ТРЫ ГАДЗІНЫ Б ГАВАРЫЎ – СЛУХАЛІ Б. ПРАГА СВАЙГО Ў ЛЮДЗЕЙ – ТАКАЯ ДАРАГАЯ КАШТОЎНАСЦЬ, ДЗЕЛЯ ЯКОЙ МЫ МУСІМ ВА ЎСЕ ЛАПАТКІ І ВА ЎСЮ МОЦ ПРАЦАВАЦЬ, КАБ ГЭТЫМ ЛЮДЗЯМ БЫЛО ШТО БРАЦЬ".**

**КАЦЯ ІВАНЧЫКАВА, БЕЛАРУСКАЯ СПЯВАЧКА З ГУРТА IOWA, ВЫКАЗАЛАСЯ ПРА ПАДЗЕІ Ў БЕЛАРУСІ, ПРА ГОНАР І САМАПАВАГУ.**

***“Мы можам ганарыцца сабой, тым, што мы ведаем, чаго хочам. Мы паважаем сябе, сваё меркаванне. Ведаем, што мы і ёсць дзяржава – людзі, якія жывуць, працуюць на заводах, пякуць хлеб, робяць цэглу для дамоў, ствараюць музыку і развіваюць мастацтва, аб'ядноўваюць духам, пішуць кнігі. Гэтыя людзі мусяць сабой ганарыцца, таму што нават у турмах, у моманты нягоды – яны застаюцца сапраўднымі людзьмі”.***

***Вольга Якубоўская***, мастачка, дзіцячая ілюстратарка з Наваполацка, аўтарка серыі малюнкаў пра коцікаў і ваўкоў. ***“Надыходзіць час — і ты разумееш, што ты ў сваім гняздзе на дрэве нічым не абаронены, калі гэтае дрэва трасуць. Я не ўяўляю, як з гэтым цяжарам жыць. Я лічу, што чалавек павінен жыць, займацца сваёй справай, любіць сваю краіну, любіць сваіх дзяцей, зямлю. Што ў гэтым кепскага? Я хачу, каб на гэтай зямлі не было гвалту”.***



Фота: Наша ніва

***Цімата Суладзэ***, трубач, які грае ў пераходах і на дваравых канцэртах салідарнасці і за гэта быў асуджаны два разы — спачатку на **13** сутак, пасля — на **15** сутак, пра свой досвед за кратамі.

**“ПА МАІХ АДЧУВАННЯХ, ГЭТА БЫЎ САМЫ НАТУРАЛЬНЫ ФАШЫСЦКІ КАНЦЛАГЕР З ПСІХАЛАГІЧНЫМІ КАТАВАННЯМІ. НА ПОЎНУЮ МОЦ ЦЭЛЫМІ ДНЯМІ ТАМ ГРАЛА РАДЫЁ, ПРЫЧЫМ ДЗВЕ РОЗНЫЯ РАДЫЁХВАЛІ АДНАЧАСОВА. ЧАСТА ЎКЛЮЧАЛІ ПЛЭЙ-ЛІСТ З «ХІТАМІ» КШТАЛТУ: «ЛЮБИМУЮ НЕ ОТДАЮТ». ДНЁМ НАМ НАВАТ ДАКРАНАЦЦА НЕЛЬГА БЫЛО ДА ЛОЖКА. ПРЫ ГЭТЫМ НА ЛАЎКУ МЫ НЕ ПАМЯШЧАЛІСЯ. КАЛІ Я ВЕЛЬМІ ХАЦЕЎ ЛЯЖАЦЬ, ТО КЛАЎСЯ НА ПАДЛОГУ З ПЛІТКІ”.**



***Максім Жбанкоў***, культуролаг, медыя-аналітык, культурны актывіст, пра прыроду рэвалюцыі.

***“Что мы видим здесь и сейчас? Странную смесь. Движ не по правилам. Легальный мятеж. Неспешные прогулочные маневры. Бунт пофигистов. Критику власти без борьбы за власть. Стихийные альянсы и уличные импровизации. Легалайз свободы при полном отсутствии идейной базы массового действия."***

# 7. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**У ДАЎГАЎПІЛСКІМ ТЭАТРЫ ПРАЙШЛА ЧЫТКА П'ЕСЫ АНДРЭЯ КУРЭЙЧЫКА "ПАКРЫЎДЖАНЫЯ. БЕЛАРУСЬ(СІЯ)".**








Дзённік "Дні ў Беларусі" ***Юлі Цімафеевай*** пра рэвалюцыйныя падзеі лета-восені ў Беларусі выйшаў у перакладзе на шведскую мову ("Dagar i Belarus").

Вершы ***Уладзя Лянкевіча*** і ***Ганны Комар*** пра падзеі лета-восені 2020 у Беларусі, а таксама эсэ ***Альгерда Бахарэвіча*** "Апошняе слова дзяцінства" ў перакладзе на шведскую мову выйшлі ў часопісе Шведскага ПЭНа PEN/Opp.



**ФІЛЬМ «ЎРОКІ ФАРСІ» РЭЖЫСЁРА ВАДЗІМА ПЕРЭЛЬМАНА, НАД СТВАРЭННЕМ ЯКОГА ПРАЦАВАЎ УЛАД КАРЭЦКІ, ВАЛАНЦЁР ШТАБА ВІКТАРА БАБАРЫКІ, ПАЛІТВЯЗЕНЬ, ЯКІ З 13 ЖНІЎНЯ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ЗНЯВОЛЕННІ І ПАДАЗРАЕЦЦА Ў АРГАНІЗАЦЫІ МАСАВЫХ БЕСПАРАДКАЎ, НАМІНАВАНЫ НА “ОСКАР”.**



Студэнты, выпускнікі і выкладчыкі факультэта анімацыі Вышэйшай дзяржаўнай школы кінематографа, тэлебачання і тэатра ў Лодзі (Польшча) зрабілі ***анімацыйны ролік* у падтрымку беларусаў.**




Адна з вядучых газет Германіі FAZ (ліберальна-кансерватыўная надрэгіянальная газета), якая распаўсюджваецца ў 148 краінах свету, апублікавала артыкул пра творчасць гуртоў ***Стары Ольса*** і ***Молчат Дома*** на фоне палітычных падзей у Беларусі. Артыкул таксама выйшаў у друкаванай версіі газеты (№294, ад 17.12.2020).

**У ЦЭНТРЫ ПАРЫЖА АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА ПРАТЭСТУ, У ЯКОЙ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ПРАЦЫ БОЛЬШ ЯК 20 МАСТАКОЎ І МАСТАЧАК (НАДЗЕІ САЯПІНАЙ З АКРЭСЦІНА, РУФІНА БАЗЛАВА І ЯЕ «ВЫЖЫВАНКА», МАРЫНА НАПРУШКІНА І ЯЕ ГАЗЕТЫ, СЯРГЕЙ ШАБОХІН І ІНШ.)**

***Англійскі ПЭН*** робіць тыднёвую рассылку пра мерапрыемствы, накіраваныя на падтрымку дэмакратычнай супольнасці Беларусі.

before/after
20/20
BELARUS

15.12.20 - 31.12.20
Muzeum Sztuki i Techniki Japońskiej Manggha
Kraków

15 снежня ў Кракаве адкрылася выстава беларускага мастацтва 'Before/After/ 2020. Belarus', яна будзе цягнуцца да 31 снежня. Удзельнікі і ўдзельніцы выставы: ***Stas Sugintas, Yana Chernova, Anastasia Rydlevskaya, Hanna Plotnikava, Anton Radionov, Mari Skakun, Aliaksandr Sakalou, Maria Stankevich, Maria Kosheleva-Likhota, Lizaveta Antropova***



***Польскія кампазітары і музыказнаўцы*** падпісалі <u>ліст салідарнасці</u> з беларускай пісьменніцкай супольнасцю ў адказ на іх адкрыты ліст ад 17 лістапада 2020.

**“МЫ ШЧЫРА <u>ПАДТРЫМЛІВАЕМ</u> БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ І ЎСІХ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ, ЯКІЯ ЗМАГАЮЦЦА ЗА ПРАВА НА НАРМАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў АГУЛЬНЫМ ЕЎРАПЕЙСКІМ ДОМЕ”.**

## The democratic opposition in Belarus

2020 Sakharov Prize laureate
for defending democracy



**18 СНЕЖНЯ ЕЎРАПАРЛАМЕНТ ПРАВЁЎ ВЭБІНАР НА ТЭМУ БАРАЦЬБЫ ЗА СВАБОДУ СЛОВА Ў БЕЛАРУСІ, ЧАСТКАЙ ЯКОГА СТАЛА ДЫСКУСІЯ ПРА РОЛЮ ТВОРЧАЙ СУПОЛЬНАСЦІ Ў ГЭТЫМ.**



## ГЭТЫ МАТЭРЫЯЛ ПАДРЫХТАВАНЫ Ў СУПРАЦЫ

БЕЛАРУСКІМ ПЭН-ЦЭНТРАМ І БЕЛАРУСКІМ ФОНДАМ КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ







## ІНФАРМАЦЫЙНЫ ПАРТНЁР




ПАРТАЛ TUZINFM.BY

## КАНТАКТЫ

belcultfond@gmail.com

by_culture

BYCULTUREFUND

bcsfbel

by_culture

#BY_culture

